ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 51 (2453) 21 снежня 1995 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

УСПАМІНЫ ЛЮДМІЛЫ КРАСКОЎСКАЙ

## З НЕВЯДОМАСЦІ

**Мая перапіска з Людмілай Іванаўнай Краскоўскай доўжыцца ўжо каторы год. І з кожным лістом з Браціславы я атрымліваю новыя і важныя звесткі ад чалавека паважнага ўзросту (летась ёй споўнілася 90 гадоў) і цікавай біяграфіі, сведкі і ўдзельніцы многіх падзей. Людміла Іванаўна вучылася ў гімназіях Вільні і Даўгаўпілса, як беларуская стыпендыятка атрымала вышэйшую адукацыю ў Празе. Л. Краскоўская -- вучоны-археолаг -- мае чатыры аўтарскія кнігі, 250 навуковых прац. З 1931 года жыве ў Браціславе.**

26 студзеня гэтага года газета "Голас Радзімы" (N 4) надрукавала яе ўспаміны аб беларускай гімназіі ў Вільні, а 2 лютага (N 5) -- згадку аб беларускай дзяржаўнай гімназіі ў Дзвінску. На публікацыі ў "Голасе Радзімы" адгукнуліся навуковы супрацоўнік энцыклапедыі з Мінска Алеся Гесь, Алег Латышонак з Беластока, Лена Глагоўская з Гданьска, жонка М. Абрамчыка з Францыі... Людміла Іванаўна ў нядаўнім допісе ўзрадавана дадала: "А нядаўна я атрымала з Таронта (Канада) кніжку "Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча", якую мне паслала яго жонка Раіса. Яна апрацавала і выдала гэту манаграфію. Так парадна выданую беларускую кніжку я ніколі не бачыла..."

Такім чынам, "Голас Радзімы" стаў для Людмілы Іванаўны надзейнай галубінай пошты.

Чарговая просьба ў Браціславу была такая: напісаць успаміны пра свайго бацьку -- Івана Краскоўскага, бо ў многіх публікацыях пра гэтага беларускага дзеяча можна было сустрэць такое горкае азначэнне: "Далейшы лёс невядомы"[1].

І вось перад вамі яшчэ адна вяртальная старонка з пакутніцкіх скрыжаляў Бацькаўшчыны -- успаміны дачкі І. Краскоўскага. Даведка, як кажуць, з першых рук. З удзячнасцю прымаем дапамогу ў спасціжэнні праўдзівай гісторыі і жыццяпісаў тых, хто яе ствараў для нас.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

[1] І. Краскоўскі пахаваны ў Брацісдаве на могілках "Спавічіе удоліе".

(Заканчэнне на 7-й стар.).



**Беларускія настаўніцкія курсы ў Даўгаўпілсе. 1922 год. Іван КРАСКОЎСКІ з Паўлінай МЯДЗЁЛКАЙ (у цэнтры).**

ХТО ЗБУДУЕ ТАКІ "ДАМОК"?



## КАБ ЖЫЛІ ПАЛАЦЫ, НЕ ПАВІННА БЫЦЬ ТРУШЧОБ

А сапраўды, што патрэбна сёння, каб пабудаваць на Беларусі дом?

Пытанне гэтае і простае, і складанае. Простае, бо на яго можна даць дакладны і нескладаны адказ: цяперашняе будаўніцтва патрабує надзвычай вялікіх грошай, такіх, якія простаму смяротнаму нават і не сніліся. Складанае таму, што, нягледзячы ні на што, па ўсёй краіне, а вакол сталіцы дык асабліва шырока, раскінуліся дзе купкі, а дзе і цэлыя прадмесці новых дыхтоўных катэджаў. Прычым, гэта не традыцыйныя для Беларусі пяцісценкі, не фанерныя ці шчытавыя "шпакоўні", папулярныя ў дачнікаў, а менавіта катэджы з адмысловай архітэктурай у 2--3, а то і 4 паверхі, з більярднымі і басейнамі, з вітражамі і калонамі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

БЕЛАРУСКІЯ ВУЧОНЫЯ Ў ЧЫКАГА

## СЯРОД ЗЕМЛЯКОЎ

З 8 па 13 кастрычніка 1995 года ў Чыкага праходзіла Міжнародная навуковая канферэнцыя сусветнага электрахімічнага таварыства. Ініцыятарам правядзення гэтай канферэнцыі быў амерыканскі прафесар Мак Кэлен. З'ехаліся многія прадстаўнікі універсітэцкай навукі, паколькі і на Захадзе, і ў ЗША навуковыя цэнтры засяроджаны ў асноўным ва універсітэтах. Былі запрошаны вучоныя і з Беларусі. Гэта кандыдаты хімічных навук Сяргей Распопаў, які працуе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, і Сяргей Лазарук, старшы навуковы супрацоўнік лабараторыі электрахімічных працэсаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і электронікі.

Як вядома, у Чыкага жыве немала беларусаў-эмігрантаў, актыўна дзейнічае Беларуска-амерыканская рада. Нашы беларусы ў Чыкага, ды і наогул амерыканскія беларусы заўсёды гасцінна сустракаюць сваіх суайчыннікаў, імкнуцца дапамагчы, чым могуць. Вось і гэтым разам, даведаўшыся ад аднаго з арганізатараў канферэнцыі, дзеяча ўкраінскай эміграцыі Слаўкі Гірнага, што на канферэнцыю едуць разам з украінскімі і беларускія вучоныя, чыкагскія беларусы вырашылі апекавацца імі на працягу ўсяго тэрміну іх знаходжання ў ЗША. Папярэдне патэлефанавалі ў беларускае пасольства ў Вашынгтоне, спраўляліся ў сакратара пасольства Аляксандра Астроўскага наконт прыезду вучоных.

Сустракалі С. Распопава і С. Лазарука ў аэрапорце Огара нашы землякі-чыкагцы М. Каленік і М. Латушкін з дачкою. (Дарэчы, спадар Мікалай Латушкін з дачкою, вельмі прыгожай, мілай дзяўчынай, пабываў мінулым летам у Мінску, наведаў сядзібу Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", і мы з Ганнай Сурмач паказвалі ім старажытную частку горада Мінска). С. Распопаў быў уладкаваны ў доме спадара М. Каленіка, а С. Лазарук -- у доме спадара М. Латушкіна. Такім чынам, яны былі пазбаўлены расходаў на гатэль, харчаванне і транспарт, што немалаважна пры нашай жабрацкай аплаце працы вучоных...

У нядзелю мінскіх гасцей запрасілі наведаць беларускую праваслаўную парафію "Сьв. Юрыя", дзе пасля літургіі адбылося вянчанне па старажытнаму беларускаму абраду, вясельная ўрачыстасць у царкоўнай залe. Гэта было першае знаёмства мінчан з жыццём беларусаў-эмігрантаў.

Напружаная праца навуковай канферэнцыі працягвалася чатыры дні з ранку да вечара. Даклады, з якімі выступілі С. Распопаў і С. Лазарук на канферэнцыі, выклікалі вялікую цікавасць у вучоных Японіі, ЗША, Германіі, даследчыкаў з іншых краін.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# СЯРОД ЗЕМЛЯКОЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

С. Распопаў (дарэчы, ён, як і С. Лазарук, дасканала валодае англійскай моваю) быў запрошаны выступіць на семінары ў Чыкагскім універсітэце з паведамленнем аб сваіх даследаваннях у галіне фізічнай хіміі. С. Лазарук суправаджаў даклад дэманстрацыяй практычных вынікаў сваіх даследаванняў. Яго слухалі з увагай і цікавасцю. Беларускія вучоныя засталіся задаволенымі працай сімпозіума, уласным актыўным удзелам у ім, знаёмствам з новымі калегамі ў сферы сваёй прафесіі. Але яшчэ большую задаволенасць і ўдзячнасць С. Распопаў і С. Лазарук выказваюць землякам-беларусам, якія так добразычліва, шчыра імкнуліся ім дапамагчы падчас знаходжання ў Чыкага.

Калі С. Распопаў вярнуўся на Беларусь, то М. Калеснік адвёз яго ў аэрапорт, пасадзіў на самалёт, каб госць не меў ніякіх турбот. М. Лазарук заставаўся яшчэ на некалькі дзён у Чыкага і меў магчымасць бліжэй пазнаёміцца з жыццём беларусаў на эміграцыі. Але выказаў думку, што як бы заможна эмігранты ні жылі ў параўнанні з намі на Бацькаўшчыне, ён сам не пажадаў бы быць эмігрантам, бо любіць сваю Беларусь з яе цудоўнай прыродай, глядзіць аптымістычна на жыццё і з вялікім задавальненнем будзе працаваць дзеля лепшай будучыні роднай зямлі і яе народа.



Мне давялося сустрэцца з Сяргеем Распопавым, распытаць пра Чыкага, землякоў-беларусаў, іх жыццё далёка ад Радзімы. Ён застаўся вельмі задаволены сваёй паездкай і асабліва тым, як яго сустракалі і апекаваліся беларусы Чыкага. Вялікую падзяку ён выказвае сем'ям М. Калесніка і М. Латушкіна, віншуе іх з надыходзячымі Калядамі і Новым годам, жадае моцнага здароўя, поспехаў і шчасця сваім суайчыннікам у далёкім замежжы.

На жаль, мне не ўдалося сустрэцца з Сяргеем Лазаруком, ён з Чыкага вылецеў у Італію на стажыроўку па накіраванню свайго універсітэта і не хутка вернецца. Але я думаю, што ён далучыўся б да слоў удзячнасці і віншаванняў, якія выказаў спадарам М. Калесніку і М. Латушкіну Сяргей Распопаў, а магчыма, і сам пашле ім свае віншаванні і падзяку.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", з свайго боку, таксама выказвае вялікую падзяку за дапамогу маладым беларускім вучоным, шле віншаванні з Калядамі і Новым годам спадарам М. Калесніку, М. Латушкіну, іх сем'ям і ўсім суайчыннікам, якія жывуць у Чыкага, Саўт-Рыверы, Кліўлендзе.

**Лідзія САВІК,**
**сакратар Рады ЗБС "Бацькаўшчына".**




**НА ЗДЫМКАХ: Сяргей ЛАЗАРУК, Сяргей РАСПОПАЎ і беларусы з Чыкага; Сяргей ЛАЗАРУК, Мікалай ЛАТУШКІН і протаіерэй Дзмітрый БАШКО, настаяцель Беларускай праваслаўнай парафіі ў Чыкага.**

# КАБ ЖЫЛІ ПАЛАЦЫ, НЕ ПАВІННА БЫЦЬ ТРУШЧОБ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Будуюць іх звычайна з цэглы, якую пажадана набыць у Прыбалтыцы, бо айчынная не адпавядае стандартам якасці. Дах бляшаны ці чарапічны, у цокальным паверсе гараж на 2-3 аўтамабілі, майстэрня, лазня... Некаторыя з такіх пабудоў ужо нават і катэджамі сорам назваць -- сапраўдныя палацы ды замкі. І што цікава, далёка не адзінкавыя, пра іх ужо можна гаварыць, калі і не як пра масавую з'яву, то дастаткова тыповую.

Хто ж у стане пабудаваць такія палацы? Зразумела, не ўрач ці інжынер, не настаўнік ці заводскі рабочы. У гэтай катэгорыі насельніцтва і на ўжо згаданую "шпакоўню" ці хопіць грошай. Сярод уладальнікаў багатых дамоў -- камерсанты, бізнесмены, ёсць сярод іх і чыноўнікі, хаця нярэдка ў дакументах значацца зусім іншыя людзі.

І тады ва ўсіх астатніх паўстае адно сакраментальнае пытанне: адкуль грошы? Урэшце, гэтае пытанне сёння асабліва вострае і актуальнае, шчыра хвалюе нашых, у большасці бедных грамадзян. Мяркуйце самі: такая "буржуйская" будыніна ў 2--3 паверхі, плошчай 200--250 квадратных метраў, побач з Мінскам каштуе ад 50 да 100 тысяч долараў. Недабудаваны катэдж (без унутраных работ) "цягне" на 30--45 тысяч; калі далей ад сталіцы, то ёсць магчымасць набыць і за 20 тысяч "зялёных". Дакладна вызначаць паходжанне такіх грошай -- справа пракуратуры. Але тое, што атрымаць іх магчыма было толькі ў перыяд вялікай сацыяльнай, прававой і эканамічнай неразбярыхі (а менавіта такі час мы зараз і перажываем) -- безумоўна. Таварныя і валютныя спекуляцыі, льготныя банкаўскія крэдыты "сваім", фінансавыя махінацыі -- вось далёка не поўны пералік крыніц шалёнага даходу. Так, магчыма, ёсць сярод заможных забудоўшчыкаў і сумленныя людзі, відаць, не без таго. Але ўжо адно тое, што апошнім часам, калі ў грамадстве шмат загаварылі пра гэтыя катэджы, будаўніцтва амаль усіх іх было "замарожана", ужо сведчыць пра многае.

Пачасціліся выпадкі, калі ўладальнікі жадалі б ад іх наогул пазбавіцца. Але ці знойдуцца пакупнікі? Дасведчаныя людзі сцвярджаюць, што з пакупнікамі сёння складана. А дакладней, іх наогул няма. Ч[illegible] Бадай, па тых жа прычынах, як[illegible] вымушаюць іншых прадаваць: вельмі дарагія будаўнічыя матэрыялы (калі прапануецца недабудаваны палац); нявызначанасць сітуацыі з падаткам на нерухомасць, які ўлады загадзя абяцаюць зрабіць значным; не[illegible]ляюць рашэнню набыць катэдж [illegible]егатыўныя адносіны як грамадства, так і ўлад да такіх домаўладальнікаў, якія апрыёры залічваюцца да бандытаў і злодзеяў. А таму пасля такой пакупкі можна чакаць павышанай увагі да сваёй асобы не толькі з боку праваахоўных органаў і пракуратуры (якая, між іншым, пакуль больш дэклaруецца), але і сапраўдных крымінальных структур -- злодзеяў, вымагальнікаў. Да таго ж заўсёды існуе небяспека, што калі не злодзеі, дык простыя грамадзяне, кіруючыся пачуццём "пралетарскай справядлівасці", могуць проста падпаліць тое "памесце", прыкладаў чаго ўжо існуюць.

Летась давялося быць у адной з вёсак на Магілёўшчыне. Да нас, прыезджых, падышоў мясцовы немалады дзядзька -- спытацца, як там у Мінску жывецца. Сярод іншага пацікавіўся, ці будуюць каля сталіцы катэджы. "Будуюць", -- адказваем. "А ці паляць?" -- "Здаецца, не", -- гаворым. "А ў нас паляць", -- з пачуццём гонару заззначыў селянін. Вось такая ілюстрацыя сучаснага жыцця на фоне панскіх палацаў.

Вельмі падабаюцца цяперашнім багатым беларусам разнастайныя вежачкі, адкрытыя галерэі, арачныя вокны... Чым мудрагелісцей, тым лепей. Але калі ўжо ўсе гэтыя вежачкі, балкончыкі і тэраскі зліплены, паўстае пытанне, як ацяпляць усю гэтую непрактычную прыгажосць. З нашым надвор'ем адным камінам не абыдзешся. Карацей, з катэджамі пакуль як у той прымаўцы: не мела баба клопату, дык купіла парася.

Што ж далей? Думаецца, калі-небудзь і ў тых дамах усё ж з'явяцца людзі. Але той час павінен яшчэ прыйсці. Бо, каб жылі палацы, не павінна быць трушчоб.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

У БЕЛАРУСАЎ ВІЛЕНШЧЫНЫ

# ВЕЧАР ПАМЯЦІ К. ЕЗАВІТАВА

Ужо стала традыцыяй адзначаць знамянальныя даты дзеячаў беларускай культуры ў Вільні. У лістападзе ў Таварыстве беларускай культуры адбыўся вечар, прысвечаны памяці Кастуся Езавітава, лёс якога да гэтага часу застаецца легендай. Біяграфія да канца невядомая, няма дакладных звестак,дзе і калі нарадзіўся, дзе, калі і ад чаго загінуў.

Адно добра вядома, што ён пр[illegible]аў у Латвіі, у якасці ваеннага прадс[illegible]ка Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанай у 1918 годзе. Потым цалкам прысвяціў сябе культурна-асветніцкай дзейнасці. У той час у Латвіі існавалі тры беларускія гімназіі, 54 беларускія школы, выдаваліся беларускія кнігі, газеты і часопісы, рэдактарам якіх бы[illegible]м К.Езавітаў. Ён шмат зрабіў для б[illegible]ускай культуры. Сабраў унікальную бібліятэку беларускіх кніг, сам працаваў над выданнем беларускай энцыклапедыі, вёў перапіску з беларускімі дзеячамі многіх краін свету. Увесь архіў К.Езавітава быў падчас вайны вывезены з Рыгі, зараз ён знаходзіцца за мяжой у ЗША, а бібліятэку забралі бальшавікі.

Дык вось, дзякуючы Мікалаю Рулінскаму, архіў удалося зберагчы для нашчадкаў. Гэта ён, дваццацігадовы хлопец, разам з сябрам у 1944 годзе, рызыкуючы сваім жыццём, едзе ў Рыгу, каб забраць самыя каштоўныя беларускія дакументы.

А даверылі яму гэтую вялікую місію сам К.Езавітаў і Барыс Рагуля.

З Гданьска цягніком даехалі да літоўскага горада Шаўляй, далей дарога была адрэзана Савецкай Арміяй, накіраваліся ў партовы горад Лібава, а потым на караблі дабраліся да Рыгі. У Рызе знайшлі адрас беларускай настаўніцы, якая ведала К.Езавітава, і разам з ёю паехалі на вілу, дзе жыў Езавітаў. Ён займаў два пакоі.

"Калі мы ўвайшлі, дык ахнулі, -- успамінае М.Рулінскі. -- Усе сцены пакояў былі запоўнены кнігамі. Дзве ночы мы выбіралі самае каштоўнае, затым збілі тры скрыні 1,5 x l метр, туды паклалі яшчэ і некалькі асабістых рэчаў К.Езавітава, у тым ліку і патэфон з дыскам "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", і, перамагаючы перашкоды, рызыкуючы жыццём, на караблі ноччу перапраўлі архіў за мяжу". На кожным кроку маглі загінуць: вайна, але за Бацькаўшчыну ішлі праз агонь і ваду. "Гэта цяпер страшна ўспамінаць", -- гаворыць Мікалай Рулінскі. На жаль, на вечар памяці ён не змог прыйсці, а колькі цікавага ён расказаў бы! Я напісала кропельку з таго, што ён мне расказваў.

На сустрэчу з беларусамі Вільні прыехаў з Мінска беларускі паэт Сяргей Панізнік, які шмат гадоў займаецца даследаваннем біяграфіі і творчасці К.Езавітава, працуе ў архівах Беларусі і Латвіі. Ён прывёз дакументы, артыкулы, прысвечаныя Езавітаву, быў аформлены стэнд з фотаздымкамі. Зараз у Мінску рыхтуецца да выхаду кніга пра Кастуся Езавітава, яна будзе няпоўнай без успамінаў людзей, якія змаглі вывезці і захаваць архіў К.Езавітава, тым больш, што М.Рулінскі ведае, дзе жыве яго сябар, з якім зберагі каштоўныя дакументы для гісторыі Бацькаўшчыны.

"І яшчэ з намі быў Бог", -- гаворыць М.Рулінскі. Бо на будынак у Рызе, дзе яны павінны былі спыніцца, упаў збіты самалёт, і перад вачыма на тым месцы засталіся груды абломкаў і руіны. Карабель, на якім плылі ноччу, абстралявацца. І калі прывезлі ў Берлін архіў, там былі здзіўлены, убачыўшы іх жывымі.

Кастусь Езавітаў быў сапраўды прызваны на вялікія здзяйсненні і зрабіў усё, што мог, для свайго народа.

**Леакадзія МІЛАШ.**

Вільнюс.

ВОДГУЛЛЕ

# БАЛІЦЬ МАЁ СЭРЦА

Калі я прачытаў у "Голасе Радзімы" N 47 ад 23 лістапада г.г. пісьмо К. Вераб'я з ЗША пад загалоўкам "Беларусы мусяць гаварыць па-беларуску", вырашыў таксама выказаць сваю думку і спадзяюся, што рэдакцыя змесціць і мой допіс. У Ольштыне нядаўна я сустрэў гісторыка-журналіста Вітаўта Рудніка, які прыехаў з Гродна з Тацццянаю Маліноўскай, выкладчыкам кафедры гісторыі Гродзенскага універсітэта, старшынёю Гродзенскай фундацыі імя Сапегі, Міколам Аксамітам, дэпутатам Вярхоўнага Савета з Ваўкавыска, Мікалаем Кавальчуком, старшынёю гарадскога Савета Ваўкавыска і Андрэем Майсяёнкам, намеснікам дырэктара інстытута хіміі ў Гродне ды старшынёй Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі. Усе яны гавораць цудоўна і па-беларуску, і па-польску. Яны пабылі ў нас цэлы тыдзень, аднак ніколі не ўспаміналі рускую мову, якая ў Беларусі ёсць дзяржаўнай. Падумайце, чытачы, як народ беларускі будзе жыць з чужой мовай! Нідзе я не чуў, каб палякі хацелі мець рускую мову ў сваёй дзяржаве.

Ад стагоддзяў асветнік Францішак Скарына, нашы паэты Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Танк ды іншыя ніколі не пісалі на рускай мове свае творы.

Як не будзе беларускай мовы, то прападзе народ. Мы глядзім па тэлебачанні, як у Мінску маладыя людзі гавораць па-руску і не хочуць беларускай мовы. Калі бачыш, што зрабіла русіфікацыя ў Беларусі, то слёзы стаяць у вачах: так паніжалі і паніжаюць найпрыгажэйшую беларускую мову!

Паважаны рэдактар "Голасу Радзімы", гэты ліст аддаю на ксеракс, разашлю ўсім газетам Беларусі: хтосьці напэўна выдрукуе. Ведайце, што баліць наша сэрца ад такога, што цяпер дзеецца ў Беларусі.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК,**
**старшыня Аб'яднання беларусаў у Ольштыне.**



Майстры-кавалі з Нясвіжа здаўна славіліся на ўсю Еўропу. Гісторыя захавала і да нашых дзён іх вырабы, а ў мясцовым краязнаўчым музеі нават захоўваецца самы буйны скураны кавальскі мех -- галоўная прылада працы каваля.

На нясвіжскай зямлі і сёння жыве нямала таленавітых кавалёў. Пасля службы на флоце прыйшоў працаваць у мясцовую сельгастэхніку памочнікам каваля Аляксандр ТУРКО (на здымку). Ужо праз некалькі год яго майстэрства прыцягнула ўвагу спецыялістаў. Трыццацігадовы нясвіжскі каваль вядомы сваімі работамі далёка за межамі Беларусі. У яго ўжо было дзесяць персанальных выстаў у Італіі, шэсць у Германіі, экспанаваліся работы ў Францыі і Арабскіх Эміратах.

Фота Эдуарда КАБЯКА.

### З ГІСТОРЫІ РАКІ ПРЫПЯЦЬ

# ЖЫЎ ТУТ НАРОД БЕЛАКУРЫ

Прыпяць -- самы вялікі прыток Дняпра. Яе даўжыня 761 кіламетр. Вытокі гэтай ракі знаходзяцца на паўночным захадзе Украіны непадалёку ад Ковеля. Па тэрыторыі Беларусі Прыпяць нясе свае воды на працягу 500 кіламетраў. У пісьмовых крыніцах да XIX стагоддзя назва ракі гучыць -- Прыпецъ (сёння -- Прыпяць). Адкуль жа пайшла гэтая назва? Яна лічыцца славянскай. Прыстаўка "пры" дазваляе тлумачыць гэтую назву як -- пакатая. Якая спадае. Пасля спрэчак вучоных было прынята, што найбольш верагоднае паходжанне назвы ракі ад старажытнарускага і беларускага тэрміна -- прыпеч. Гэтым словам названы пясчаны бераг ракі, без хмызняку (тое ж, што і пляж). Яшчэ ў перадваенныя гады на Палессі гэтае слова шырока сустракалася ("човен кінулі на прыпечы -- рассохся"). Назва ракі і пайшла ад тэрміна -- прыпеч -- пясчанага наносу на беразе ракі. Аднак у мінулым стагоддзі аб паходжанні назвы ракі разважалі крыху інакш. У IX томе "Геаграфічнага слоўніка каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін", выдадзеным у 1888 годзе ў Варшаве, маюцца звесткі аб паходжанні назвы ракі, аб тым, як гэтая назва гучала ў розныя эпохі на розных мовах. "...па-беларуску Прыпаць (Prypac). Беларускае слова "прыпадзь" азначае топкае, багністае, з правaламі, вокнамі зыбкае месца".

Першабытныя людзі заўсёды стараліся сяліцца па берагах рэк. Найбольш старадаўняе паселішча чалавека ў басейне Прыпяці адносіцца да эпохі позняга палеаліту. Стаянка каля вёскі Юравічы Калінкавіцкага раёна самая старажытная на тэрыторыі Беларусі. Берагі Прыпяці і яе буйных прытокаў заселены з IX тыся[illegible]дзя да н.э.

Даныя аб Пры[illegible]яці назапашваліся на працягу многіх стагоддзяў. У V стагоддзі да н.э. грэчаскі гісторык Герадот, якога называюць "бацькам гісторыі", наведаў бе[illegible]агі Понта Еўксінскага -- [illegible]іннага мора (Чорнага мора), спыняўся на беразе Дняпроўскага лімана ў грэчаскай калоніі Ольвіі. Адсюль рабіў вандроўкі ўверх па Дняпры. Свае ўражанні і расказы відавочцаў аб землях, што ляжаць па прытоках Дняпра, выклаў у "Мельпамене" -- так назваў ён 4-ю кнігу сваёй гісторыі. У ёй -- першыя звесткі пра Днепр (Барысфен) і яго прытокі. Рухаючыся па расказу Герадота па Дняпры на поўнач, сустракаем народ, які называўся будзіны -- "народ вялікі і шматлікі, увесь белакуры і ў вяснушках. У іх быў горад драўляны, а імя гораду Гелaнос. Зямля іх уся зарослая лясамі. У самай галоўнай пушчы знаходзіцца вялікае і мнагаводнае возера, а вакол яго скоп водаў, парослых трыснягом". Вялікія балоты ў раёне Пінск--Лунінец--Тураў, у той час яшчэ больш мнагаводныя, якраз і адпавядаюць "вялікаму возеру Будзінаў". У I стагоддзі н.э. старадаўні мысліцель Пліній у сваёй Historias Naturalis расказаў пра гандлёвы шлях з Дняпра ў Нёман да берагоў Балтыкі па бурштын праз Прыпяць--Яцольду (Ясёлду) -- Шчару і Нёман.

**Леў КОЛАСАЎ.**

(Заканчэнне будзе).

# ПАЧЫНАЛЬНІК НОВАЙ ЛІТАРАТУРЫ

*ДА 200-годдзя ЯНА ЧАЧОТА*

Ян Чачот -- першы выдатны беларускі паэт, пачынальнік новай беларускай літаратуры, яркая зорка нашага нацыянальнага адраджэння. У цёмную ноч прыгонніцтва, калі фанабэрыстае панства, нічым не жадаючы быць падобным да "мужыка"-беларуса, амаль цалкам выракласся мовы роднай зямлі і перайшло -- у побыце і ў друку -- на "панскую" польскую мову, Ян Чачот, рашуча стаўшы на бок свайго народа, пачаў ствараць літаратуру якраз на гэтай пагарджанай, зганьбаванай апалячанымі прыгоннікамі роднай беларускай мове. Гэта была падзея невымернай важнасці: упершыню пасля двухсотгадовага маўчання са старонак добра аформленых друкаваных кніг на ўвесь голас загучала жывое беларускае слова. Два фальклорныя зборнікі Яна Чачота (1844 і 1846 гадоў) з яго ўласнымі беларускімі вершамі яскрава засведчылі факт нараджэння новай беларускай літаратуры і адначасова новы выхад на гістарычную сцэну аднаго з самабытных і вялікіх славянскіх народаў. Гэты подзвіг паэта высока ацаніў у 1914 годзе ў артыкуле "Беларускае адраджэнне" Максім Багдановіч, паставіўшы Яна Чачота на чале беларускіх пісьменнікаў-адраджэнцаў.

Такая высокая ацэнка творчасці Яна Чачота, трэба заўважыць, давалася ў той час, калі не былі вядомыя яшчэ больш важныя творы паэта -- яго поўныя маладога шалу, вельмі папулярныя сярод філаматаў беларускія студэнцкія вершы і песні, якія ўпершыню ўбачылі свет толькі ў 1924 годзе (праз стагоддзе пасля напісання!), яго выключна цікавыя, заснаваныя на беларускіх народных паданнях рамантычныя балады, што зрабілі вялікі ўплыў на Адама Міцкевіча (апублікаваныя яны былі ўжо ў наш час -- у 1972 годзе), урэшце, надзвычай важныя для нас Чачотавы "Спевы пра даўніх ліцвінаў да 1434 года" -- своеасаблівая гісторыя старажытнай Беларусі ажно ў 55 песнях-баладах, якія толькі ў мінулым, 1994 годзе, былі апублікаваны асобнай кнігай у Вільні (на польскай і літоўскай мовах). Чакае сваёй публікацыі і знойдзены фалькларысткай Л.А.Малаш цэлы збор невядомых дасюль беларускіх народных песень на мове арыгінала, запісаных калісьці Янам Чачотам. Па сутнасці мы ўсё яшчэ адкрываем гэтага падзвіжніка нашага адраджэння, які паўстае перад намі ўсё новымі і новымі гранямі.

24 чэрвеня 1996 года спаўняецца 200 гадоў з дня нараджэння Яна Чачота. Ягоны юбілей -- добрая нагода па-гаспадарску агледзець і асэнсаваць немалую творчую спадчыну паэта, ва ўсёй велічы раскрыць яе перад шырокай грамадскасцю, вярнуць яму належнае месца ў гісторыі нашай культуры.

Для ўшанавання памяці нашага выдатнага паэта-дэмакрата створаны Арганізацыйны камітэт па святкаванню 200-х угодкаў Яна Чачота. У склад Аргкамітэта ўвайшлі прадстаўнікі Міністэрства культуры і друку, Саюза беларускіх пісьменнікаў, Міжнароднага фонду "Беларускі кнігазбор", Асацыяцыі фалькларыстаў, Карэліцкага райвыканкама, дзеячы навукі і культуры. Старшынёй Аргкамітэта выбраны Кастусь Цвірка.

На сваім пасяджэнні Аргкамітэт намеціў цэлы шэраг мерапрыемстваў, звязаных са святкаваннем юбілею. У канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі ў Мінску павінен адбыцца ўрачысты вечар, прысвечаны Яну Чачоту. У Карэлічах будзе арганізавана спецыяльная навуковая канферэнцыя пад назвай "Карэліцкія чытанні", а ў вёсцы Малюшычы, месцы нараджэння паэта, пройдзе галоўнае свята з удзелам калектываў мастацкай самадзейнасці Карэліцкага, Навагрaдскага і Ляхавіцкага раёнаў. На азёрнай жа Лепельшчыне, дзе жыў паэт пасля царскай ссылкі і дзе запісваў народныя песні, плануецца наладзіць у яго гонар свята Купалле. Да юбілею паэта рыхтуюцца да друку кніга выбраных твораў Яна Чачота, песні Станіслава Манюшкі на яго словы, насценны каляндар з партрэтам паэта. Мяркуецца таксама выпусціць юбілейныя паштоўкі, марку, канверт з выявай паэта, адкрыць бюст Яна Чачота ў Карэлічах. На тэлебачанні, радыё будуць падрыхтаваны перадачы пра яго жыццёвы і творчы шлях, у газетах і часопісах знойдуць месца публікацыі пра паэта. У нашых галоўных бібліятэках да юбілею Чачота адкрыюцца тэматычныя выставы кніг і публікацый. Адна з вуліц у Карэлічах будзе названа імем Яна Чачота. Арганізуецца паездка ў вёску Ротніца пад Друскенікамі на магілу паэта. У Вільні сумесна з літоўскімі сябрамі будзе наладжаны вечар памяці Яна Чачота.

**З ПЫТАННЯМІ АДНОСНА АРГАНІЗАЦЫІ 200-гадовага ЮБІЛЕЮ ЯНА ЧАЧОТА ПРОСІМ ЗВЯРТАЦЦА ДА СТАРШЫНІ АРГКАМІТЭТА (т. 63-99-46) АЛЬБО ДА ВЫКАНАЎЧАГА САКРАТАРА -- ГЕНАДЗЯ ВІНЯРСКАГА (220034, МІНСК, вул. ФРУНЗЕ, 5, ДОМ ЛІТАРАТАРА, тэл. 36-09-09).**

**АРГКАМІТЭТ.**

# БЛАКІТНЫ ШАРЫК З ЛОНДАНА



Grand Balloon Race

NOTICE TO FINDER OF THIS CARD

This Card and Balloon were found

Англійскі хлопчык Калін О. Брайн з горада Тамбрыдж Уэлс, што недалёка ад Лондана, удзельнічаючы ў спаборніцтвах па запуску паветраных шарыкаў у сваім дзіцячым садзіку, відаць, і не падазраваў, што яго блакітны шарык паб'е рэкорд і праляціць амаль увесь еўрапейскі кантынент.

Запушчаны 24 лістапада 1995 года, шарык апусціўся 26 лістапада на сядзібе Уладзіміра Кіслага з вёскі Кармазы Старадарожскага раёна. У шарыку была картка. Стараннямі дачкі Уладзіміра Дзям'янавіча Таццяны Каед пра гэта даведаліся ў Пасольстве Вялікабрытаніі ў Беларусі. Картка, дастаўленая з Англіі ў паветраным шарыку, трапіла ў Пасольства Вялікабрытаніі, адкуль і паведамілі маленькаму Каліну аб вялікім падарожжы яго шарыка.

Цяпер малы піша пісьмо Уладзіміру Кісламу. Таму, хто знойдзе шарык, які пераадолеў самы доўгі шлях, будзе ўручаны прыз. Пакуль шарык Каліна трымае рэкорд.

НА ЗДЫМКАХ: Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь Джон ЭВЕРАРД гутарыць з Таццянай КАЕД; картка, што праляцела з шарыкам такі далёкі шлях.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства “Радзіма”).



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках “Голасу Радзімы”, не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты “Вечерний Минск”. Аддрукавана ў друкарні “Беларускі Дом друку”. (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак.7142. Падпісана да друку 18.12.1995 г.